*Чарговая забава «бацькі» абыйдзецца нам у 8 мільёнаў USD (стар. 2)*
*С. Дубавец: «Чужая палітыка» (стар. 4) А. Груздзіловіч: «Расколатае грамадства» (стар. 4)*



# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 93.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

5 красавіка 1996 г. № 25 Кошт свабодны

# Мінск, 2 красавіка. 30.000 на вуліцах Наперадзе – «Чарнобыльскі Шлях»

*Прайшоў тыдзень — і ўсё паўтарылася. Многія меркавалі, што 30-тысячнае шэсце за незалежнасць, якое адбылося 24 сакавіка ў Мінску, было рэкордам сезона. Аднак у аўторак 2 красавіка сталіца паказала, што асноўныя падзеі і рэкорды — наперадзе*







Усе прагнозы, якія рабіліся ў журналісцкіх колах напярэдадні 2 красавіка, аказаліся памылковымі. Ніхто з нашых калег не прадказваў больш за тры-чатыры тысячы ўдзельнікаў. У сапраўднасці ж на вуліцу выйшла тысяч 20-30.

Не памыліліся толькі ўлады.

## «Вы што – здурнелі?»

З іншых гарадоў у Мінск былі сцягнутыя не толькі батальёны ўнутраных войскаў, але і звычайныя міліцыянты. Для ўсіх бандытаў і злодзеяў, якія прамышляюць у Беларусі, гэта быў выдатны падарунак, паколькі ўсе сілы МУС былі кінутыя супраць "нацыяналістаў" (найперш у сталіцу, а таксама ў абласныя цэнтры).

Ужо да 15-й гадзіны ў Мінску ўсе падыходы да плошчы Незалежнасці былі перакрытыя пастаўленымі ўпоперак МАЗамі і аўтобусамі. Паўсюль стаялі міліцэйскія кардоны, якія прапускалі ў бок плошчы выключна тых, хто мог штампам прапіскі ў пашпарце пацвердзіць, што ён сапраўды жыве ў гэтым квартале. "Вы што — здурнелі? — здзіўлена пытаецца ў маёра жанчына. — Я не бэнээфаўка! Я на паштамт іду!" "Нельзя!"

Увесь транспарт праходзіў у гэтым раёне без прыпынкаў. Выхад з метро на плошчу Незалежнасці пасля трох гадзінаў дня быў зачынены. Многія з тых, хто кіраваўся на мітынг з паўднёва-заходняй часткі горада, так і не змаглі далучыцца да калоны.

## Гэта было на ўсіх тэлеэкранах свету, акрамя БТ

У 17:20 калоны дэманстрантаў рушылі па праспекту ў адваротны бок ад плошчы Незалежнасці. Перад ГУМам выйшлі на праезджую частку. Праз некалькі хвілін услед зараўлі сірэны — прыляцелі закратаваныя машыны, набітыя спецназам і АМОНам, які тут жа высыпаў на праспект. Колькі іх было (тысяча, дзве?) — цяжка сказаць. Размахваючы дубінкамі, "сілы правапарадку" пачалі адцясняць калону на тратуар. Гэта быў самы ўдалы момант для шматлікіх тэлеапаратараў. Замежных, вядома. Беларускае тэлебачанне не здымала, паколькі ёсць Замяталін, які можа лепш за ўсіх рэпарцёраў расказаць што і як было, таму няма сэнсу марнаваць каштоўную відэастужку...

Зноў, як і 24 сакавіка, перад цыркам увесь праспект перагарадзілі спецназаўскія кардоны і калона звярнула на вул. Янкі Купалы. Потым па вуліцах Багдановіча, Варвашэні выйшлі з боку гатэля "Беларусь" у раён Траецкага прадмесця і каля 19-й гадзіны хвост амаль двухкіламетровай калоны падыйшоў да Палаца спорта.

## «Взять его!»

Калона "нахадзіла" па горадзе прыблізна шэсць-сем кіламетраў. Спецназ згортваўся з аднаго месца і пераязджаў сустракаць дэманстрантаў на іншае. Ключавыя аб'екты (рэзідэнцыя прэзідэнта, тэлецэнтр і іншыя) ахоўваліся жывой сілай і тэхнікай. Можна было пабачыць вадамёты, спецмашыны з газавымі ўстаноўкамі, у дварах (напрыклад, тэлецэнтра) стаялі БТР.

Па дарозе ўсё ж было некалькі сутычак з міліцэйскімі падраздзяленнямі. Падчас адной з іх быў затрыманы нават фотакарэспандэнт газеты *"Советская Белоруссия"* Васіль Фядосенка. Карэспандэнт СВАБОДЫ быў сведкам таго, як палкоўнік міліцыі (прозвішча ўстанавіць не ўдалося) скамандаваў міліцыянтам: "Взять его! В отделение! Пленки засветить!" Як пазней мы высвятлілі, фотакарэспандэнта даставілі ў Цэнтральны РАУС, адкуль праз дзве гадзіны выпусцілі, склаўшы пратакол. Самае цікавае, што ў пратаколе запісалі, нібыта В.Фядосенка "призывал колонну идти на площадь Независимости".

## Не варта расчароўвацца

Гэтая акцыя адрознівалася ад іншых найперш тым, што прыкладна 70-80 працэнтаў дэманстрантаў — моладзь ва ўзросце ад 16 да 25 гадоў. Пасля мітынгу каля Палаца спорта, які завяршыўся ў 19.45, большасць гэтых людзей разыходзіліся злёгку незадаволеныя. Адчувалася, што моладзь чакала большага, ёй хацелася што-небудзь "узяць" — тэлецэнтр, рэзідэнцыю прэзідэнта, альбо хаця б пераваярнуць пару міліцэйскіх машын. Што характэрна, большасць маладых досыць нецярпіма ставяцца да сваіх аднагодкаў, якія стаяць у міліцэйскіх кардонах. Я ўспамінаю мітынгі канца 80-х, пачатку 90-х гадоў. Тады вельмі мала знаходзілася адважных, гатовых пайсці на міліцыю. У сённяшніх маладых гэтага страху няма.

Маладым не варта расчароўвацца, што нічога не ўзялі. Наперадзе — 26 красавіка, "Чарнобыльскі шлях". У гэты дзень запланаваны збор каля Акадэміі навук. У ранейшыя гады акцыя завяршалася на плошчы Незалежнасці. Будзем спадзявацца, што так будзе і сёлета.

А галоўнае, што далі падзеі 2 красавіка — карцінка на тэлеэкранах усяго свету, як беларусы ў дзень падпісання расійска-беларускага саюзу пратэстуюць супраць пакта Лукашэнкі-Ельцына. Наўрад ці цяпер міжнародныя аглядальнікі ўплывовых замежных СМІ будуць сцвярджаць, што мы не хочам незалежнасці. Мы паказалі ўсяму свету чаго хочуць беларусы. І гэта самае важнае.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

## Брэст: затрымалі сем чалавек

**2 красавіка ў Брэсце насупраць будынка аблвыканкама быў наладжаны пікет.**

Сэнс акцыі адлюстроўвалі надпісы на плакатах: *"Калісьці ў гэтыя дні Іуда прадаў Хрыста, сёння Лукашэнка прадае Беларусь"*, *"Прэзідэнт, аб'ядноўвайся лепш са сваёй жонкай!"*

Міліцыя затрымала і даставіла ў Ленінскі раённы аддзел унутраных справаў сем чалавек, дзе на іх былі складзеныя пратаколы аб адміністратыўным парушэнні. Аднаму чалавеку з фотаапаратам, які здымаў пікет, міліцыянты разбілі дубінкай камеру і засвяцілі плёнку.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## Магілёў: на кожнага пікетчыка – па міліцыянту

**2 красавіка у Магілёве прайшоў антыпрэзідэнцкі пікет, які быў наладжаны мясцовымі філіямі БНФ і БСДГ.**

Каля пікета сабралася прыкладна 200 чалавек, якія пратэставалі супраць падпісанага Лукашэнкам саюзнага пагаднення з Расіяй. Акцыя адбывалася побач з памяшканнем магілёўскага аддзялення "Прыорбанку". Ягонае кіраўніцтва настойліва прасіла пікетчыкаў адыйсці ад будынка, "каб пратэсты не звязваліся з фірмовай маркай "Прыорбанку". Не менш пільную ўвагу прыцягнуў пікет і ў міліцыі. Яе супрацоўнікаў было болей, чым саміх пікетчыкаў. Начальнік Цэнтральнага РАУС горада падпалкоўнік Аляксандр Церахаў запатрабаваў "прыбраць" бел-чырвона-белы сцяг. У адваротным выпадку ён пагражаў прымяніць сілу. Пасля таго, як сцяг схавалі, начальнік супакоіўся.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Віцебск: на шэсць чалавек склалі пратаколы

**Каля ста чалавек 2 красавіка ў Віцебску выйшлі на плошчу Свабоды і ўтварылі пікет, пратэстуючы супраць дамовы аб саюзе з Расіяй.**

Людзей, якія трымалі ў руках бел-чырвона-белыя сцягі і плакаты (накшталт *"Сашка + Борка — будзе вельмі горка"*), міліцыя затрымала і адвезла ў райаддзел міліцыі. На 6 чалавек з ліку затрыманых былі складзеныя пратаколы аб парушэнні грамадскага парадку.

**Барыс ХОЛАД**

## А бегемоты тым часам выміраюць

**1 красавіка ў Мінску каля цэнтральнага корпусу Белдзяржуніверсітэта прайшла студэнцкая акцыя пратэсту, арганізаваная маладзёжнай студэнцкай анархісцкай арганізацыяй "Чырвоны жонд".**

У маніфестацыі прынялі ўдзел каля 60 студэнтаў. Удзельнікі акцыі трымалі плакаты з лозунгамі *"Патрабуем аб'яднання ваенна-марскіх флотаў Беларусі і Кыргызстана"*, *"Толькі інтэграцыя можа выратаваць каракумскіх бегемотаў ад вымірання"* і іншыя. Фальшывы поп, ролю якога выконваў адзін са студэнтаў, асвяціў жалобную інтэграцыйную цырымонію. Акцыя працягвалася каля гадзіны. Да мітынгоўшчыкаў выйшлі прадстаўнікі Белдзяржуніверсітэту з патрабаваннем спыніць дэманстрацыю, пасля чаго ўдзельнікі разышліся.

**СІМ**

## Там, дзе вучыўся адзін вядомы «гісторык»

**У той самы час, калі прэзідэнт РБ падпісваў у Маскве расійска-беларускую дамову, у Магілёўскім педагагічным інстытуце, дзе некалі вучыўся Лукашэнка, панавалі іншыя настроі.**

Група студэнтаў наладзіла тут збор подпісаў *"за далучэнне Магілёва да Швецыі"*. Побач з падпіснымі лістамі на стале стаяла шыльдачка: "Тут сядзеў А.Г.Л.". Але свае подпісы паспелі паставіць толькі некалькі дзесяткаў студэнтаў, паколькі акцыю "запеленгавала" адміністрацыя. Падпісныя лісты ў той жа дзень былі накіраваныя ўраду Швецыі. У суправаджальным пісьме студэнты выказалі просьбу, каб мэрам будучага шведскага горада Магілёва быў прызначаны спадар Карлсан (былы прэм'ер Швецыі).

**Іван ЗАСАДА**

## Улады «вызвалілі» кнігу Грыба

**Нарэшце ўбачыла свет кніга экс-спікера Вярхоўнага Савета Мечыслава Грыба "На гістарычным скрыжаванні", якую выдала недзяржаўная выдавецкая кампанія "Тэхналогія".**

Рэч у тым, што практычна цэлы месяц кніга была пад арыштам з-за таго, што на вокладцы ёсць выява нацыянальнага герба "Пагоня". Толькі пасля таго, як быў зменены знешні выгляд кнігі, тыраж удалося вывезці са склада паліграфічнага камбіната. Кніга Мечыслава Грыба прысвечаная актуальным праблемам дзяржаўнага будаўніцтва, рэфармаванню эканомікі, знешняй і ўнутранай палітыцы Беларусі.

**СІМ**

*ССР*

## Вячаславу Кебічу смешна

*Былы беларускі прэм'ер, як самы вопытны інтэгратар СНД, ужо прайшоў гэты шлях. Беларуска-расійскае пагадненне пра «рублёвую зону» было нават ратыфікаванае беларускім парламентам. Цяпер на чарзе ратыфікацыя ССР*

Барыс Ельцын знаходзіцца сёння прыкладна ў такой жа сітуацыі, якая была ў Вячаслава Кебіча роўна два гады таму, калі ў Беларусі распачалася прэзідэнцкая гонка. Вячаславу Францавічу (гэтаксама як цяпер Барысу Мікалаевічу) вельмі патрэбныя былі козыры, а дакладней — хаця б пару вагонаў расійскіх грошай. Палкоўнік Замяталін, помніцца, запэўніваў 4 красавіка 1994 г., што вось-вось вагоны прыбудуць на станцыю "Мінск-таварны" і заўтра ж пачнецца абмен "зайчыкаў" на расійскія рублі па курсе 1:1. У выніку народ абмяняў Кебіча на Лукашэнку.

Безумоўна, Лукашэнка цяпер будзе спрабаваць выціснуць з Ельцына максімум: калі не хочаш "единения" — давай мазут, газ... Але звышзадача нашага "усенароднга абранага" заключаецца хутчэй за ўсё ў тым, каб з дапамогай інтэграцыйнага козыра схіліць Ельцына адкласці выбары і самому паспрабаваць ускочыць у расійскі перадвыбарчы цягнік. Памятаеце фразу: "Беларусь для меня — пройденный этап..."

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

*АЦЭНКІ*

# ССР як частка выбарчай кампаніі Ельцына

*Агляд замежнай прэсы*

Англійская газета ***Financial Times*** у сваім каментары "Падпісанне" адзначае, што маскоўскі Крэмль ужо даўно не бачыў такой пышнай цырымоніі. Было такое ўражанне, што сам Ісус Хрыстос, дзякуючы намаганням расійскага патрыярха Алексія II, прысутнічаў у Крамлі. Між тым гэтая пышнасць, працягвае газета, нікога не павінна падманваць. Падпісанне расійска-беларускай дамовы — гэта частка прэзідэнцкай перавыбарчай кампаніі Барыса Ельцына, які спрабуе такім нетрадыцыйным спосабам перамагчы лідэра камуністаў.

Вядучы палітычны аглядальнік ***радыё "Свабода"*** у Вашынгтоне Поль Гобл у сваім каментары адзначае, што падпісанне пагаднення паставіла куды больш пытанняў, чымся было адказаў на складаныя праблемы абедзвюх краінаў. А самае галоўнае пытанне, якое ўзнікае ў сувязі з новай формай расійска-беларускага саюзу, — хто будзе плаціць за ўвесь гэты інтэграцыйны працэс.

На думку Гобла, дагавор аб стварэнні новай супольнасці можа мець тры галоўныя вынікі. Па-першае, падпісанне дагавору, запланаванае ўяксацці часткі перавыбарчай кампаніі Барыса Ельцына, ужо само па сабе павінна адштурхнуць ад Ельцына як мінімум значную частку свядомых выбаршчыкаў. Дагавор паміж Расіяй і Беларуссю садзейнічае адраджэнню беларускага нацыянальнага руху. Масавыя дэманстрацыі пратэсту ў Мінску, на думку Гобла, выразнае сведчанне гэтага. Ельцынска-лукашэнкаўская змова можа стаць сродкам адраджэння нацыянальнай свядомасці сярод беларусаў. І, патрэцяе, сама форма і сэнс беларуска-расійскага дагавору, замест таго, каб прыцягнуць у склад супольнасці новых членаў, можа адштурхнуць іх. Гобл лічыць гэтую акалічнасць галоўнай. Нягледзячы на пышную рыторыку Лукашэнкі і Ельцына, Беларусь, бясспрэчна, ў выніку дамовы з Расіяй страціць частку свайго суверэнітэту. І таму практычна ніхто з былых савецкіх саюзных рэспублік на гэтае пайсці пакуль што не гатовы. Вострая негатыўная рэакцыя Украіны — выразнае сведчанне непрыняцця іншымі беларускага варыянту. Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма выступіў у сваім парламенце якраз у дзень падпісання беларуска-расійскага саюзу і яшчэ раз вельмі негатыўна выказаўся супраць спробаў аднаўлення былога СССР.

Агенцтва ***Reuter*** у сваім каментары з нагоды падпісання дамовы адзначае, што Еўрапейскаму саюзу спатрэбіліся дзесяткі гадоў і дзесяткі, а можа, і сотні мільярдаў долараў, каб дасягнуць падобнай ступені інтэграцыі. Беларусь і Расія спрабуюць ажыццявіць гэта з дапамогай росчырка пяра.

Шмат якія замежныя інфармацыйныя агенцтвы прыводзяць у сваіх каментарах выказванні вядучых расійскіх палітыкаў на тэму расійска-беларускага пагаднення. Думаецца, што найбольш трапны каментар быў выказаны дэпутатам Думы Уладзімірам Лукіным. "Агульна гаворачы, — заявіў Лукін, — інтэграцыя — гэта вельмі добра, але інтэграцыя падчас выбарчай кампаніі — гэта зусім іншая справа. Пасля выбараў, магчыма, не будзе ўжо чаго і каго інтэграваць".

**Мікола ІВАНОЎ**

*З ДАСВЕДЧАНЫХ КРЫНІЦ*

# Чарговая забава «бацькі» абыйдзецца нам у 8 мільёнаў USD

*У хуткім часе прэзідэнт Лукашэнка будзе мець персанальную эскадрылью*

Гэтымі днямі на Казанскі верталётны завод павінна адправіцца група беларускіх ваенных "спецоў", каб прыняць там два верталёты для нашага "бацькі". Машыны зробленыя па спецзаказе на базе мадэлі Ми-17. Па словах дасведчаных людзей, гэтыя верталёты маюць шыкоўны салон для адпачынку, а таксама абсталяваны сістэмамі касмічнай навігацыі і тэлевізійнага агульнага агляду. Прэзідэнцкімі верталётамі будуць кіраваць ваенныя пілоты эскадрыльі, якая дыслакуецца ў Сцяпянцы, што побач з Мінскам.

Цікава, што ў распараджэнні Лукашэнкі ўжо даўно знаходзяцца два верталёты Ми-8Т, якімі ён час ад часу карыстаецца. Аднак захацелася, відаць, і ў небе мець камфорт не горшы, чым на зямлі. Каштаваць гэта будзе не вельмі дорага — 8 мільёнаў долараў (па 4 мільёны за адзін верталёт). Прычым крыніца фінансавання ўжо знойдзеная: у тэрміновым парадку заключаны кантракт з Суданам на пастаўку 14 баявых верталётаў (Ми-6 і Ми-24). На ваеннай авіяцыйнай базе Балбасава (Віцебская вобласць) ужо падрыхтаваныя для продажу першыя шэсць верталётаў Ми-24.



*Калі пабачыце ў небе такі верталёт, ведайце: прэзідэнт ляціць*

Вайскоўцам, якія праводзяць перадпродажную падрыхтоўку машын (фарбаванне ў жоўты колер і інш.), паабяцалі заплаціць па 750 долараў за кожную машыну. Фірма "Белтэхнаэкспарт", якая выконвае гэтую здзелку, ужо заказала на Украіне для перавозкі тавару самалёт Ан-124 "Руслан". Акрамя таго, ў Судан для выпрабавання верталётаў на месцы сфарміравана некалькі экіпажаў (6 чалавек) з ліку ваенных пілотаў.

Беларускі дэсант будзе ўзначальваць прадстаўнік "Белтэхнаэкспарту" маёр запасу В.Казакоў. Усім пілотам ужо зрабілі прышчэпкі ад афрыканскіх хваробаў.

За кожны верталёт Судан заплоціць прыкладна па 800 тыс. долараў.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

МЕРКАВАННЕ

# Шэсце 2 красавіка як люстэрка новых тэндэнцый

*Назіранні ўдзельніка*

**Падзеі 2 красавіка ў Мінску яскрава паказалі, што ў Беларусі можа ўзнікнуць вельмі радыкальны маладзёжны рух за незалежнасць.**

## Тэндэнцыя першая

Пасля шэрагу паразаў, да якіх трэба далучыць прэзідэнцкі рэферэндум, збіванне дэпутатаў і іншыя факты, незалежніцкія сілы фактычна цэлы год знаходзіліся ў стане глухой абароны.

Але з 2 красавіка сітуацыя карэнным чынам змянілася — **зараз прыйшла чарга баяцца уладам**. Гэта яны (улады) паспяхова прадэманстравалі гэта колькасцю міліцыі і амона, сабраных ў аўторак на плошчы Незалежнасці. Падраздзяленнямі нашых славутых абаронцаў былі забітыя ўсе падыходы да яе. Нават у падземным пераходзе каля паштамта і будынка Мінскага гарвыканкама ўсё кішэла ад людзей у брудна-зялёнай форме. І гэтыя апасенні былі небеспадставымі.

## Тэндэнцыя другая

Як паказалі падзеі, сённяшняму рэжыму сапраўды ёсць чаго баяцца. калі раней на мітынгі БНФ у асноўным прыходзіла інтэлігенцыя, людзі сталага ўзросту, то 2 красавіка **ўпершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі большасць удзельнікаў 20-тысячнай акцыі складала менавіта моладзь**. Мяркуючы па ўсім лепшая не частка нарэшце вызначылася ў сваім прыярытэце — незалежная і дэмакратычная Беларусь.

## Тэндэнцыя трэцяя

Усё шэсце адрознівала адна асаблівасць — неарганізаванасць. Народны Фронт, які раней быў галоўнай кіруючай сілай, аказаўся не ў стане ўнесці элемент арганізацыі ў акцыю. Як выявілася, **існуе сіла нікім не кантралюемая**. І наўрад ці Народны Фронт зможа ўзяць яе пад кантроль, паколькі гаворка ідзе пра **радыкальна** настроеную моладзь, у той час як БНФ імкнецца заставацца ліберальнай партыяй і, падобна, не зацікаўлены ў рашучым процістаянні ўладзе.

Такім чынам, ніша для арганізацыі, здольнай узначаліць палітычна актыўную моладзь — пустая. Але пуставаць яна будзе недоўга. Хто займе гэтую нішу: БЗВ ці нейкая новая арганізацыя — цяжка сказаць. Але ясна, што гэта будзе радыкальная арганізацыя, якая не будзе баяцца **ніякіх** сутыкненняў з уладай.

**Васіль ТАРАСЕВІЧ**





*Фотаздымкі пабоішча, якое ўчыніў міліцэйскі спецназ у Мінску 24 сакавіка абышлі ўвесь свет. Мы вырашылі апублікаваць некаторыя з тых кадраў, якія з'явіліся ў замежнай прэсе.*



*На гэтым здымку, зробленым каля КДБ, вы бачыце збітага да непрытомнасці маладога чалавека. У кадры (справа) — лідэр Народнага Фронта Зянон Пазьняк. Прозвішча пацярпелага хлопца высветліць нам пакуль не ўдалось.*

ПИСЬМО В РЕДАКЦИЮ

# Когда женятся нищий и голый, – ни один богатым не станет

Я одна из тех, кто был на митинге 24 марта. Думаю, что мое мнение совпадает с мнением большинства людей, которые пришли в этот день на площадь Независимости.

Но, как выясняется, президент Лукашенко опять ничего не понял и ничему не научился. Снова виноваты враги, иностранные посольства, конечно же оппозиция и весь мировой империализм. Поймите же, господин президент, на площади был народ (не правые, не центристы, не националисты и не "группа молодчиков"), а просто люди. И вышли они не потому, что их кто-то позвал, поманил, а потому, что их терпение лопнуло. На площадь, как ни странно, их вывели вы, Александр Григорьевич, ваша политика. Можно терпеть безденежье, безработицу, радиацию, но нельзя терпеть, когда о тебя вытирают ноги. А вы, господин Лукашенко, вытираете ноги о собственный народ, хоть не все это замечают.

Скоро два года как вы внушаете белорусам комплекс неполноценности. Дескать, бедные мы несчастные недотепы, без России пропадем, без присмотра старшего брата разбосячимся, а посему скорее хоть в союз, хоть в федерацию, хоть Бог знает куда — только бы прилепиться, примазаться к России, тогда заживем...

Ведь нет глупых народов, неспособных распорядиться своей свободой. Есть бездарные руководители, ни на что не годные, кроме сумасбродных идей типа "единения".

И бросте ссылаться на "волю народа". Действительно, большинство проголосовало за экономическую интеграцию. Экономическую! И не надо кричать, что это значит "воссоединение", "единение", "объединение", "слияние"... Не отказывайте людям в здравом смысле, любой знает: когда женятся нищий и голый, — ни один богатым не станет.

Ваше главное оружие — ложь, замалчивание, полуправда. А для тех, на кого оно не действует, у вас есть дубинки и газ. Я сама видела, как спецназ избивал беззащитных, идущих с митинга людей. Кому мешали идущие по тратуару люди? Были даже беспомощных пожилых людей и женщин, которые годятся вам в матери. От бессилия хотелось плакать...

А "штурм телецентра"... Полно! Никто не собирался его штурмовать. Люди всего-то требовали прямого эфира. Всего десять минут телетрансляции. Но для вас это страшно, невозможно и ужасно, что кто-то кроме вас появится на экране. А поэтому туда стянули спецназ, ОМОН, внутренние войска, транспортную милицию и даже сотрудников райотделов. Люди смеялись! Смеялись над глупостью властей. Кого вы боитесь? Народа? Пазьняка? Да, он говорит, что белорусы будут втянуты в российские войны. А вы клянетесь, что нет, и выступаете гарантом. Но ведь не прошло и двух лет, как вы клялись на Конституции и нарушили эту клятву. Сейчас товарищ Заметалин высказывается в том смысле, что если президент нарушает Конституцию, значит Конституция плохая. Так как же вам верить?

Ни одно десятилетие в истории России не обошлось без войн (чеченская далеко не последняя). И вы толкаете наш народ в этот кровавый котел! Мне жаль белорусов, жаль Беларусь. Да и вас тоже жаль. Ведь придется отвечать. Не перед людьми, так перед Богом — хоть вы и атеист...

**ЛУКАШУК**
**Нина Владимировна**
*мать двоих детей, 33 года*

РОЗГЛАС

# Вазьміце нас да сябе разам з дачамі і пчоламі

*Як адрэагавалі ў Гродна на «Пастку Прымакова»*

"Сенсацыя" з польскага тыднёвіка *Nie* аб магчымым тэрытарыяльным перадзеле паміж Польшчай і Беларуссю зрабіла сваю справу, парадзіўшы ў гродзенцаў надзеі і расчараванні. Шмат хто ўспрыняў звесткі аб магчымасці далучэння Гродна да Польшчы досыць станоўча. Мне, канечне, цяжка меркаваць аб усім спектры водгукаў на гэтую публікацыю, бо адных толькі падпісчыкаў СВАБОДЫ ў нас у Гродна тысяча, і пагутарыць з кожным, вядома ж, немагчыма. Але агульная карціна выглядае прыблізна так.

Вельмі спадабалася падобная перспектыва некаторым чыгуначнікам. Прычына ў тым, што гродзенская чыгунка мае мізэрны статус, з'яўляючыся ўсяго толькі філіяй баранавіцкай. А як вядома, дзе начальства, там усе прывілеі, узнагароды, санаторныя пуцёўкі і г.д.

Адмоўна ўспрынялі навіну вайскоўцы, бо з Гродна ім давялося б перабірацца ў Шчучын ды іншыя райцэнтры, жыццё ў якіх значна менш цікавае, чым у старажытным горадзе на Нёмане. У міліцэйскіх колах рэакцыя была больш спакойная. Маўляў, ахоўнікі парадку заўсёды патрэбныя. Стаць паліцыянтам, атрымаць замест савецкай кукарды белага арла на фуражку — справа даволі прывабная. У паліцыю ўзялі б, канечне, не ўсіх. Але палякі, якіх у гродзенскай міліцыі шмат, відаць, мелі б такі шанц.

Уяўляю, як быў бы задаволены "Пасткай Прымакова" адзін з функцыянераў Саюза палякаў. Нядаўна на адным мерапрыемстве ён упарта даводзіў, што мяжа паміж Польшчай і Беларуссю абавязкова павінна праходзіць па Нёмане. (Менавіта так абяцаў некалі таварыш Сталін.) Хаця асабіста гэты чалавек меў бы пры такім варыянце пэўныя клопаты. Жыве ён у заходняй занёманскай частцы горада, а офіс Саюзу палякаў знаходзіцца ва ўсходняй і яму давялося б тады ездзіць на працу за мяжу і кожны дзень пры гэтым праходзіць памежны кантроль.

А вось у звычайных людзей і клопаты іншыя. Тысячы гродзенцаў зарабляюць сёння на жыццё гандлем. Шмат хто з іх возіць прадукты і тавары з Беластока на продаж у Гродна. Для іх перспектыва вельмі выгодная. Як толькі Гродна далучаць да Польшчы, адразу патаннеюць прадукты, як цяпер у Беластоку. І самім лягчэй будзе пражыць, і ў Мінск на продаж вазіць можна. Або ўзяць заводы, большасць з якіх амаль не працуюць. Далучэнне да Польшчы, безумоўна, абнадзеіла б рабочых, якія даўно не вераць у эканамічныя цуды Лукашэнкі. А адзін мой знаёмы, прачытаўшы, што разам з Гродна да Польшчы адыйдуць і ваколіцы горада, вельмі занерваваўся: яго ўсхвалявала, ці перойдзе яго ная дача з пчольнікам да польскай тэрыторыі, ці застанецца за мяжой — у ССР...

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

ПРАХАДНЫ ДВОР

# Нелегальным шляхам – на Захад

**31 сакавіка каля Ракава Валожынская міліцыя затрымала аўтобус "Ікарус", у якім знаходзілася 52 грамадзяніна Пакістана. Фірма-арганізатар гэтага падарожжа збіралася нелегальна "перакінуць" пакістанцаў праз заходнюю мяжу.**

Намеснік начальніка Валожынскага РАУС Уладзімір Садоўскі дасказаў карэспандэнту СВАБОДЫ, што гэта ўжо трэцяя (за апошнія два месяцы) група нелегалаў, якіх удалося затрымаць раённай міліцыі.

Праз Беларусь, як вядома, цяпер пралягае найлепшы шлях для нелегальнай эміграцыі на Захад, паколькі наша ўсходняя мяжа ў інтарэсах расійска-беларускай інтэграцыі зусім не кантралюецца.

Па звестках прэс-службы памежных войскаў, на беларуска-польскай мяжы за ты месяцы гэтага года затрымана каля 600 парушальнікаў (больш 200 з іх — афра-азіяты). Нелегалы імкнуцца перасячы заходнюю мяжу альбо па фальшывых дакументах, альбо іх затрымліваюць падчас пераходу кантрольнай паласы. Напрыклад, нядаўна ў цягніку Масква — Брусель брэсцкія памежнікі затрымалі 8 грамадзян Афганістана. Яны спрабавалі патрапіць у Еўропу па фальшывых пашпартах, як грамадзяне Кіргізіі. Двух алжырцаў выявілі ў тайніку, які быў абсталяваны ў адным з вагонаў цягніка Брэст — Беласток. Грамадзяніна Казахстана затрымалі пры пераходзе кантрольнай паласы, ён спрабаваў патрапіць у Парыж, каб "уступіць у французскі замежны легіён".

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Чужая палітыка

**Сяргей ДУБАВЕЦ**

*Два гады прэса лепіць з Лукашэнкі героя, “объединителя” славянскіх народаў, геапалітычнага монстра. І не так істотна, што гэта: жаханне апазіцыйнага аўтара перад “сатаною” ці экстаз афіцыёзнага пісьменніка перад “выдающейся личностью”. Можна зразумець каментатараў: калі пішаш пра вялікае, то і сам робішся большы. Вось толькі ў самых моцных словах, ужытых для характарыстыкі Лукашэнкі, заўсёды адчуваецца нацяжка, перабор, фальш. Бо ён не д’ябал, не монстр, і не культурны герой. Ён — марыянетка, заклікаaны агучваць чужую палітыку. Чужую як на персанальным, так і на дзяржаўным узроўні.*



У Лукашэнкі **ніколі не было канструктыўнай праграмы** — адэкватных адказаў на пытанні жыцця. Яшчэ ў перадвыбарчых дэбатах, калі ён абяцаў “запусціць заводы”, В.Кебіч спытаўся ў яго — як? Адказу не было. Адказу няма і сёння. Як вынік —заводы працягваюць “запускацца”. Ці яшчэ прыклад. Саюз з Расіяй патрэбны нам, кажа Лукашэнка, каб просты чалавек стаў жыць лепей. Багданкевіч пытаецца: няўжо вы не бачыце, што нашы суседзі купляюць нафту па сусветных коштах, але заробкі простых людзей у іх вышэйшыя, чым у нас? Я ўсё пракрасна бачу, адказвае Лукашэнка, але тут вам не там. І ўвесь адказ. Гэта значыць, што і саюз з Расіяй будзе мець гэткі ж эфект, як захады прэзідэнта, скіраваныя на “запуск” заводаў.

Забаўна назіраць, як Лукашэнка раз за разам клянецца захаваць суверэнітэт Беларусі. Я б спытаўся ў яго: навошта яму гэты суверэнітэт? І, упэўнены, таксама не атрымаў бы адказу.

Прыклады можна множыць. На пытанні па сутнасці Лукашэнка **ніколі не адказаў па сутнасці**. Два гады ў яго былі абсалютна развязаныя рукі, але ён **так нічога і не зрабіў для паляпшэння жыцця**. Таму што не ведае, як зрабіць, не ўмее. Ён толькі бясконца круціць заезджаную пласцінку пра інтэграцыю з Расіяй.

Марна шукаць у выступленнях Лукашэнкі логіку. Акрамя “музыкі інтэграцыі” там нічога няма. Нельга нават уявіць сабе, каб некалі нейкі прэм’ер палітыка Лукашэнку ў склад свайго кабінету. У якасці каго?.. Адпаведна і Лукашэнка не мае свайго ўраду. Бо гэта ўсё “людзі Кебіча”, якімі кіруюць іхнія гаспадары з-за межаў нашай краіны.

Лукашэнка паслядоўна “наяжджае” на дзяржаўнасць, Канстытуцыю, нацыянальныя традыцыі Беларусі. Але адначасова гэта — не ён. Гэта рука, якая торгае яго за ніточкі. На пасадзе прэзідэнта Беларусі ён цалкам падпарадкаваны расійскім нацыянальным інтарэсам.

Дакладней, гэта інтарэсы адной з расійскіх палітычных груп. Вылічыць яе нескладана (праўда, вылічваць рэзідэнтаў — гэта справа службы бяспекі, а не мая). Яе почырк адчуваецца паўсюль на межах Расіі, у Чачэніі, дзе працягваецца вайна, выгадная “пэўным палітычным сілам”. Гэтыя сілы прывялі Лукашэнку да ўлады, гэтыя сілы цяпер праз яго кіруюць працэсам развалу нацыянальнай беларускай дзяржавы. Для канкрэтызацыі я мог бы называць ВПК і ФСБ; згадаць рэгулярныя візіты ў Беларусь Мікалая Рыжкова — з указаннямі; успомніць прадпісанні радыкальных славянасаборшчыкаў, атрыманыя Лукашэнкам на сустрэчы летась у лютым; урэшце запытацца — хто канкрэтна даваў грошы на выбарчую кампанію Лукашэнкі? Але галоўнае цяпер іншае — тое, што **лёс Беларусі праз Лукашэнку вырашаецца не ў Беларусі**.

Дарэчы, на прэзідэнцкіх выбарах маскоўскія таварышы “вялі” адначасова і Лукашэнку і Кебіча. І незалежна ад перамогі аднаго з іх, “перамаглі” людзі, якія былі да іх прыстаўленыя. Гэта яшчэ раз падкрэслівае марыянетачнасць нашых “прэзідэнтаў” і рэальную сілу ўсялякіх Замяталіных — краснадарскіх таварышаў, якія сёння вучаць беларускі народ ненавідзець усё нацыяналістычнае, г.зн. усё беларускае.

**Сам** Лукашэнка **ніколі нічога рэальна не вырашаў**. Ягоная задача — “замазваць” планамерныя захады расійскай палітыкі, скіраванай на разбурэнне і анэксію Беларусі. З часам гэта рабіць усё цяжэй. Бо калі здачу двух беларускіх нафтагігантаў яшчэ можна “замазаць”, граючы заезджаную пласцінку пра інтэграцыю, то, напрыклад, тэрытарыяльныя перадзелы, розныя сакрэтныя пратаколы а ля Молатаў-Рыбентроп, інтрыгі Прымакова на сутыку *NATO*-Польшча-Расія апраўдаць будзе зусім цяжка. Любы, самы камуністычны ВС выступіць супраць. Таму трэба хутчэй далучыць Беларусь да Расіі, каб голасу ВС не было чуваць увогуле. Напэўна так рэкамендуюць зрабіць маскоўскія таварышы.

Назарбаевы, Кучмы, Шэварднадзы толькі разводзяць рукамі ў здзіўленні. Маўляў, што гэта за прэзідэнт, які **сьвядома разбурае сваю краіну** ва ўгоду нацыянальным інтарэсам суседняй дзяржавы. Прычым гэта — адзінае, што Лукашэнка робіць сапраўды планамерна і эфектыўна. Усе астатнія захады — у эканоміцы або сацыяльнай сферы — хаатычныя і безвыніковыя.

Нацыянальная здрада пачынаецца з малога. З рабалепства перад чужой культурай, мовай, гісторыяй і знявагі культуры, гісторыі і мовы сваёй зямлі. Так хацелі маскоўскія гаспадары, і ён гэта “агучыў”. Потым ён расставіў на стратэгічныя пасады іхніх людзей — Ерыных з Ярмошынымі, Канцаравых з Латыпавымі... Слухаючы па радыё, як растаўчанін прафесар Акулаў расказвае нам “праўду” пра беларускую гісторыю, я думаю, што на ключавых пасадах у нашай краіне створана ўжо цэлая сетка прыезджых эмісараў, якія паралізуюць усе сістэмы функцыянавання суверэннай краіны.

Нідзе, ні разу, ні жэстам, ні словам Лукашэнка не выявіў пачуцця любові да Беларусі і беларушчыны. Ягоны патрыятызм адрасаваны іншый краіне — СССР, правапераемніцай якога стала Расія.

Тое самае — электарат Лукашэнкі, які не ведае перспектывы Беларусі і галасуе за “светлае ўчора”. Гэта падманутыя людзі. Свядомая частка электарату, інтэлігенцыя, што галасуе за “саюз” — гэта, як правіла, людзі прыезджыя і чужыя, для якіх будучыня Беларусі — дзесятая справа. Беларуская, тутэйшая інтэлігенцыя заўсёды галасавала супраць Лукашэнкі і “саюза”.

І вось выснова — сёння, калі няма Савецкага Саюзу, уся настальгія па ім ператвараецца ў настальгію па Расіі. А вядомы гэтай настальгіяй прэзідэнт Беларусі ператвараецца ў магільшчыка Беларусі.

Дзіва, як часта даводзіцца ў нас паўтараць ісціну пра тое, што ўсё канструктыўнае ў Беларусі — беларускае. Іначай і быць не можа. Усё іншае — блеф, дэмагогія.

Напрыклад, Лукашэнка заяўляе, што мы — абаронцы ваенных інтарэсаў Расіі на захадзе. Абаронцы ад каго? Ад палякаў? Але для любога заходнебеларускага хлопца Польшча не чужэй, чым Расія для “парня” шклоўскага. І потым, на чым баку апынецца Лукашэнка ў выпадку канфлікту Расіі з Украінай? Абсурд? Вось калі пачнецца сапраўдны абсурд...

Я таксама выхоўваўся ў савецкіх традыцыях, і засвоіў, што інтэрнацыяналізм — гэта калі рускі не можа быць даражэй за літоўца і наадварот. Я разумею абодвух. Таксама як латыша, паляка або ўкраінца. Іншая рэч, што непрадказальная палітыка Крамля і слабасць нашае ўласнае дзяржавы вымагае ад нас дыстанцыявацца.

Тое ж, дарэчы, з мовамі. Можна не любіць і грэбаваць нейкай моваю толькі да тае пары, пакуль яе не ведаеш.

Мне незразумелыя і рэлігійныя арыентацыі “праваслаўнага атэіста” Лукашэнкі. А тым больш — выкарыстанне рэлігіі ў палітыцы. Ані ў савецкай школе, ані ў савецкай арміі нас гэтаму не вучылі.

Справа ў тым, што ўвесь гэты этнічна-канфесійны цынізм не мае нічога агульнага з тымі савецкімі традыцыямі, на якія спасылаецца Лукашэнка. Былі ў нас і ў Савецкім Саюзе вырадкі: “я атэіст, але перавагу аддаю праваслаўю”; “усе нацыі роўныя, але рускія — вялікая нацыя”. Да чаго гэта прыводзіць сёньня, мы бачым: Лукашэнка здае **несваю** краіну Беларусь — **сваёй** краіне СССР, пераемніцай якога стала Расія. У такіх умовах хто ўстане на абарону Канстытуцыі? Калі не ВС, не Канстытуцыйны Суд, не кааліцыя партыяў, не прамыслоўцы з аграрыямі, тады ўстане народ, імем якога пачынаецца наш Асноўны Закон.

Гэта будзе легітымная рэвалюцыя.

# Расколатае грамадства

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**



**Мітынговая “ліхаманка” апошніх двух тыдняў стала відавочным сімптомам вядомай у свеце хваробы — раздвоення грамадства. Беларусь расколатая, але галоўная небяспека ў тым, што лекар (улада) робіць усё, каб хвароба прагрэсавала, а раскол паглыбляўся.**

### Гісторыя паўтараецца

Канечне, зусім не навіна, што Беларусь раздвалася. Гістарычна яна падзялілася яшчэ некалькі стагоддзяў таму на заходнюю і ўсходнюю часткі, кожная з якіх развівалася дастаткова своеасаблівым шляхам. Намаганні як адзінак-асветнікаў, так і цэлых нацыянальна-вызвольных рухаў на працягу апошніх стагоддзяў не здолелі аб’яднаць Беларусь у адзінае цэлае. Кастусь Каліноўскі загінуў на шыбеніцы, бо ягоную ідэю дзяржаўнай незалежнасці не падтрымала значная частка насельніцтва, у тым ліку і дастаткова адукаваныя людзі. Геаграфічны, палітычны падзел дапоўніўся рэлігійным — паміж праваслаўнымі і каталікамі, у той час як спробы выйсці на “трэці шлях” не ўдаліся: і рэфарматарства, і уніяцтва ў Беларусі проста не паспелі пусціць глыбокія каранёў. І нарэшце самыя важныя расколы адбыліся ў XX стагоддзі.

У пачатку 90-х гадоў Беларусі, здавалася, пашанцавала — краіна атрымала незалежнасць. Але бессістэмнае манеўраванне ўладаў так і не вывела нас на шлях, на якім фармальны суверэнітэт набывае рысы рэальнага. Чым мацней “заходнікі” цягнулі дзяржаўны воз на Захад, тым больш станавілася тых, хто ўпіраўся і цягнуў на Усход. “Рынкавы сацыялізм” Лукашэнкі — гэта яскравая праява таго, што гістарычна краіна засталася на тым самым месцы, дзе была дзесяць гадоў таму. Аднак грамадская свядомасць некаторых груп насельніцтва зрабіла за гэтыя пяць-сем год каласальны крок наперад, вынік якога — сённяшні падзел паміж людзьмі адной краіны. Гісторыя паўтараецца. У новае тысячагоддзе мы крочым так і не аб’яднаўшыся.

### Новае «згубленае пакаленне»?

Адзінай глебай для аб’яднання рэальна магла стаць ідэя дзяржаўнага суверэнітэту. І яна ўжо пачала працаваць на будучыню, пра што сведчыць хаця б колькасць моладзі, якая выйшла на праспект Скарыны падчас падзеяў 2 красавіка. “Моладзь за Беларусь!” — скандзіраваў шматтысячны натоўп каля Палаца спорта. Гэтых юнакоў не прывезлі на аўтобусах, наадварот, дэканы палохалі іх усялякімі пакараннямі, міліцыя пагражала ім дубінкамі і газам. Канечне, нават ва ўмовах суверэнітэту праз некалькі гадоў гэтая моладзь магла б умоўна падзяліцца на белых, чырвоных, зялёных і г.д. Аднак гэта былі б ужо беларускія белыя і беларускія зялёныя. Былі б... Бо ўлада зрабіла ўсё, каб усіх іх аб’яднаць пад бел-чырвона-белымі сцягамі.

Толькі я зусім не ўхваляю такія “ўмовы” для аб’яднання, хоць яны і вядуць да павелічэння шэрагаў апазіцыі. Рэч у тым, што комплекс апазіцыйнасці ў пэўным сэнсе разбуральны для асобы, для яе псіхікі, здольнасцяў, лёсу. Загнаны ў кут апазіцыянер пачынае жыць па прынцыпе “чым горай ім, тым лепей мне”, і ў выніку ён рана ці позна, але пераступае мяжу ў барацьбе. У гэтым сэнсе лёс моладзі, якая вырасла ва ўчорашніх умовах фармальнага суверэнітэту мне бачыцца хутчэй трагічным, чымсьці гераічным. Па-сутнасці яны не рабы, а іх будуць прымушаць жыць у рабстве.

### Інкубатар «гома саветыкус»

Сённяшняму сямігадоваму хлопчыку, які ўжо цікавіцца, што такое Радзіма, вельмі цяжка будзе растлумачыць ясна, у якой краіне яму выпала шчасце (хутчэй няшчасце) нарадзіцца і жыць. У Беларусі? Дык бацькам ужо не. У СНД? Акрамя Івана Каратчэні там больш ніхто не прапісаны. У СССР? Аб тым, што ёсць такая краіна, пакуль кажа толькі бабуля, якая гатовая маліцца на свайго прэзідэнта Лукашэнку і верыць усім яго абяцанкам.

Пры ўсёй прывіднасці сённяшніх інтэграцыйных перамог Лукашэнкі, ёсць у іх адзіны канкрэтны палітычны вынік ужо сёння: яны па-сапраўднаму пачалі разбураць той хай сабе слабенькі падмурак, на якім будаваўся светапогляд будучага грамадзяніна суверэннай Беларусі. Цяпер ізноў пачалося выхаванне новага пакалення “гома саветыкус” — чалавека без радзімы, без каранёў, без геаграфічных каардынат. Гэта ўжо адбываецца ў садках, дзе выхавацелькі раптам “забыліся” на беларускія казкі, у малодшых класах, дзе навучанне зноў перавялі на рускую мову, у гімназіях, ВНУ і г.д. І паўсюль ідзе разбурэнне асобы, якая нават яшчэ не сфарміравалася.

Вынікі такога працэсу ўжо відаць на тварах маладых салдатаў, якіх узброілі дубінкамі, шчытамі і паставілі як той частакол з аднолькавых бярвёнаў вакол мітынгуючых. Яны разгубленыя: іх прызывалі з беларускіх вёсак быццам бы служыць народу, а цяпер прымушаюць кідацца на гэты народ з дубінкамі. Яны спалоханыя: больш, чым натоўпу яны баяцца сваіх сяржантаў і афіцэраў, гэтых “дзядоў” ды “афганцаў”. Яны пасаромленыя: ім соромна, бо жанчыны абвінавачваюць іх у “здрадзе”, называюць “нахлебнікамі” (хаця дзе ім яшчэ знайсці сёння працу?). Нарэшце, яны азлобленыя — усё ж не іх віна ў тым, што даводзіцца выконваць ролю карнікаў. Але ёсць ужо і асалода ад пачуцця сілы, усемагутнасці. Маўляў, ты гаспадар над гэтымі людзьмі, колькі б іх не было, бо ў цябе ў руцэ дубінка, а яны смелыя, пакуль іх не пачалі біць...

Калі дзяржаўная сістэма накіравана выключна на супрацьстаянне з палітычнымі апанентамі, рана ці позна вірус варожасці ахоплівае ўсіх, хто на яе працуе. Міліцыянт адчувае задавальненне ад таго, што ўдарыў дубінкай. Кіраўнік радыё ўвесь аж трасецца ад шчасця, што яго палітычныя апаненты больш не атрымліваюць эфіру. Новы міністр, які яшчэ ўчора спачуваў нацыянальнай ідэі, сёння ганяе мастакоў-“нацыяналістаў”, і, па сутнасці, уводзіць у мастацтве цэнзуру. Што гэта, калі не мэтанакіраванае паглыбленне бездані паміж людзьмі адной краіны, адной радзімы?

### Працяг беларускага эксперыменту

Аперацыю па распальванню варожасці, якую Лукашэнка бліскуча правёў у Беларусі, цяпер ён пачынае на бязмежных прасторах. Расія і так уся пранізаная супрацьстаяннямі: рэгіёнаў, груп насельніцтва, рэлігій, палітыкаў. Аднак супрацьстаянні гэтыя досыць збалансаваныя, і таму краіна, хоць і кепска, але трымаецца. Лукашэнка прарываецца ў Расію, каб разбурыць хісткую раўнавагу. Ён стварае новую барыкаду. Па адзін бок будуць тыя, хто за яго, па другі тыя, хто супраць. Як ён гэта зробіць? А вельмі проста. Чарка гарэлкі, выпітая па-руску (да дна!) перад тэлекамерамі, а потым з ухарствам разбітая аб падлогу Георгіеўскай залы Крамля — гэта яшчэ адзін камень у тую барыкаду. Іншыя ён будзе паступова ўкладваць, калі пачне дзейнічаць у якасці старшыні “савета двух” і “садружнасці чатырох”. Прычым не так істотна тое, што ён будзе рабіць канкрэтна (пакуль яму мала што дазволяць), як тое, пад якім соусам падасць свае інтэграцыйныя намаганні.

Б’юся аб заклад, што хутка па расійскім тэлебачанні мы спачатку даведаемся ад Лукашэнкі, што ў “інтэграцыі братніх народаў былога Саюза” ёсць тэарэтычныя ворагі, потым ён назаве іх паймена, потым выступіць з ідэяй усесаюзнага рэферэндума і г.д. Абавязкова з бляскам у вачах, з клятвамі ў “чэснасці” намераў, кампліментамі “жэншчынам”. Калі расійскія палітыкі, якія самі любяць гуляць у папулізм, зразумеюць, якога джына выпусцілі з бутэлькі (а гэта магчыма зразумець толькі калі ўбачыш сваімі вачыма), будзе ўжо позна. Застанецца толькі выключныя сродкі барацьбы з Ілжэдзмітрыем, якія расійскі істэблішмент хутчэй за ўсё не пасароміцца выкарыстаць.

Нам, аднак, ад таго наўрад ці стане лягчэй, бо беларускі раскол пачаўся не з Лукашэнкі, хаця і значна ім паглыблены. Эпідэмія варожасці яшчэ нават не дасягнула апагею. Для аздараўлення людзей і іх аб’яднання ў супольнасць патрэбны будзе новы “шчаслівы выпадак” ды праца некалькіх пакаленняў. Ці гатовыя мы да такой нялёгкай перспектывы?

СПОРТ

# Замест мішэні – сэрца

**АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ**

☒ 6 красавіка 1896 года ў Афінах адкрыліся I Алімпійскія гульні сучаснасці. У спаборніцтвах больш за 300 спартсменаў з 13 краін. З тых часоў прайшло роўна 100 год. За гэты час Алімпіяды пераўтвараліся ў сапраўдныя фестывалі шчырага спартовага суперніцтва планетарнага маштабу. У апошніх летніх гульнях, якія адбыліся ў Барселоне ў 1992 годзе, спаборнічалі каля 10.000 атлетаў з 172 краін усіх кантынентаў. Алімпіяды 1916, 1940, 1944 не адбыліся з прычыны таго, што на Зямлі віравалі сусветныя войны. З 1924 года сталі праводзіцца і Зімнія гульні, апошняя з якіх адбылася ў г. Лілехамэры (Нарвегія) у 1994 годзе. Золатам упісаныя ў алімпійскую гісторыю імёны беларускіх спартсменаў Вольгі Корбут, Віталя Шчэрбы (спартыўная гімнастыка), Алены Бяловай і Тацяны Самусенка (фехтаванне), Аляксандра Мядзьведзя (вольная барацьба), Рамуальда Кліма (лёгкая атлетыка).

У мінулую суботу ў старажытнай Алімпіі (Грэцыя) быў запалены алімпійскі агонь XXVI Гульняў у Атланце. Эстафета алімпійскага агню пройдзе па ўсіх гарадах, што прымалі Алімпіяды на працягу стагоддзя.

**СТРАЛЬБА**

☒ У сталіцы Венгрыі Будапешце на чэмпіянаце Эўропы па стральбе з пнеўматычнай зброі паспяхова выступаюць беларускія стралкі. Аб заваяванні алімпійскімі чэмпіёнамі Ірынай Шылавай і Канстанцінам Лукашыкам адпаведна залатога і бронзавага медалёў вы ўжо ведаеце. Чэмпіёнкамі сталі і нашыя пісталетчыцы Юлія Сіняк, Людміла Барэйша і Яўгенія Галуза, якія выбілі лепшую суму ачкоў у камандных спаборніцтвах.

**ШАХМАТЫ**

☒ Нядаўні чэмпіён свету сярод юніёраў Веселін Тапалаў (Балгарыя) і чэмпіён свету Гары Каспараў (Расія) падзялілі пераможцу ў турніры XVII катэгорыі па шкале *FIDE*. У апошнім 9-м туры Каспараў перамог мінчаніна Барыса Гельфанда, а Тапалаў — галандца Еруна Пікета. Пераможцы набралі па 6,5 ачка з 9 магчымых. Трэці прыз таксама давялося дзяліць на дваіх — Вішванатана Ананда (Індыя) і Найджэла Шорта (Англія) — па 5. Барыс Гельфанд (Беларусь) пасля няўдалага фінішу (паразы ад Тапалава і Каспарава) набраў 3,5 ачка і заняў восьмае месца, апярэдзіўшы гаспадароў турніру Пікета і Цімана (абодва — Галандыя). Наступны старт Барыса — на турніры па хуткіх шахматах "Крамлёўскія зоркі", што адбудзецца ў Маскве.

**ШАШКІ**

☒ Чэмпіянат краіны па міжнародных шашках прынёс чарговы, чацвёрты запар, тытул міжнагоднаму гросмайстару Аляксандру Балякіну. Балякін, а таксама яго цёзка Булатаў, які заняў другое месца і чатырохразовы чэмпіён свету Анатоль Гантварг будуць прадстаўляць Беларусь на сусветным першынстве ў Малі. Нагадаем, што ў студзені Балякін гуляў матч за права сустрэцца з чэмпіёнам свету Гунтысам Валнэрысам (Латвія), але ва ўпартай барацьбе саступіў расіяніну Аляксею Чыжову.

**БОКС**

☒ Следам за барцамі алімпійскія ліцэнзіі разыгрываюць і баксёры — на чэмпіянаце Еўропы ў Вайле (Данія). Шчаслівымі ўладальнікамі пуцёвак у Атланту стануць баксёры, што дасягнуць чвэрцьфіналу. З 10 беларускіх майстроў рынгу гэтую задачу выканалі трое: Сяргей Быкоўскі (1-ая напаўсярэдняя вага), Вадзім Мезга (2-я напаўсярэдняя) і Сяргей Ляховіч (суперцяжкая). Быкоўскі і ў мінулым годзе быў і чвэрцьфіналістам сусветнага першынства, а Ляховіч нядаўна выйграў буйны міжнародны турнір у Чэхіі. Абодва Сяргеі — нашыя алімпійскія спадзяванні ў гэтым відзе спорту.

**ФУТБОЛ**

☒ Адбыліся першыя паўфінальныя матчы Кубку *UEFA*. У Празе мясцовая "Славія" прайграла французскаму "Бардо" — 0:1. Адзіны мяч у вароты гаспадароў забіў Крыстоф Дзюгары. Гэты форвард двойчы вызначыўся і на два тыдні раней, калі "Бардо" сенсацыйна разграміў "Мілан" (3:0).

У Мюнхене (Германія) сустрэліся гранды еўрапейскага футболу "Баварыя" і "Барселона". Лік адкрыў іспанец Оскар Гарсія, але ў другім тайме Вітэчак і Шоль вывелі гаспадароў поля наперад — 2:1. Аднак незадоўга да фінальнага свістку пасля памылкі абаронцы румын Георге Хаджы аднавіў раўнавагу — 2:2. Такім чынам, можна з вялікай доляю ўпэўненасці прагназаваць, што ў фінале сустрэнуцца "Бардо" і "Барселона". Зрэшты, не будзем спяшацца: спорт увогуле і футбол у прыватнасці непрадказальны.

**ХРОНІКА**

☒ Каля паўгоду таму ў Данецку быў забіты прэзідэнт футбольнага клубу "Шахцёр" Аляксандр Брагін. Разам з ім загінулі і пяцёра яго целаахоўнікаў. Як высветлілася, Брагін быў адным з галоўных мафіёзі вугальнага краю. Яго забойства было, хутчэй за ўсё, следствам барацьбы за ўладу ў мясцовым крымінальным свеце. І барацьба гэтая не заціхае дагэтуль: яе ахвярай стаў прэзідэнт "Шахцёру", але баскетбольнага Аляксандр Шведчанка. Ён быў застрэлены ва ўпор чатырма невядомымі ў Кіеве, у офісе фірмы "Ітэра", адным з кіраўнікоў якой быў Шведчанка. На вайне, як на вайне?

☒ Французская плаўчыха Анн Шаньё, злоўленая на ўжыванні допінгу пасля заплыву на 25 км у студзені 1995 г. у Бразіліі, датэрмінова вызваленая ад дыскваліфікацыі рашэннем Міжнароднай федэрацыі плавання. Нядаўна была таксама рэабілітаваная рэкардсменка свету аўстралійка Саманта Рылей. Магчыма, допінг для плаўцоў хутка будзе ўзаконены?

**ТЭНІС**

☒ Штэфі Граф, якая выйграла турніры ў Індыян-Уэлсе і Кі-Біскейне, зарабіла 310.000 долараў, але гэта толькі трэці паказчык. Больш за яе атрымалі Моніка Сэлеш — 405.990 і Іва Маёлі — 317.903. Замыкае дзесятку самых удачлівых Ліндсей Дэвенпорт — 124.924 долара.

**Сямён ПЛОЦ**

ЕЎРОПА

# У кожнага свае клопаты

(Пачатак на стар. 5)

**Вакаліст і ўдарнік** групы *Genesis* Філ Колінз вырашыў выйсці са складу гэтага гурта, у якім спяваў на працягу 25 гадоў, аднак і надалей будзе працягваць вакальную кар'еру.

***

**Піва становіцца** ўсё больш папулярным у Польшчы. 30 найвялікшых польскіх вытворцаў піва прадалі ў мінулым годзе 15,2 мільёна гекталітраў гэтага напою, ці на 8,1 % болей, чым у 1994 годзе. Большасць бровараў у Польшчы знаходзіцца ў прыватных руках, што дазваляе актыўна залучаць інвестыцыі і вырабляць добрае піва.

***

**Эстонская паліцыя** бяспекі ўзбудзіла крымінальную справу супраць мэра Таліна Яака Тама. Мэр абвінавачваецца ў карупцыі.

***

**Здымкі фільма "Эвіта"** (пра жыццё і лёс жонкі былога аргенцінскага прэзідэнта Перона) з удзелам знакамітай спявачкі Мадоны перанесены з Буэнас-Айрэса ў Будапешт. Гэта адбылося ў выніку масавых акцый пратэсту аргенцінцаў, якія лічаць сам фільм і ўдзел у ім Мадоны знявагай памяці Евы Перон. Будапешт быў абраны таму, што цэнтральная частка гораду, на думку прадзюсэраў, вельмі нагадвае Буэнас-Айрэс

***

**Нацыянальны Сход Францыі** прыняў закон, які забараняе продаж у краіне бытавой аўдыёапаратуры з выхадноймагутнасцю больш за 100 дэцыбелаў. Такім чынам французскія парламентары берагуць здароўе маладога пакалення, што слухае гучную музыку.

***

**Праз 40 год** на вуліцы Вялікага Лондана зноў вяртаецца трамвай. У паўднёвым прадмесці сталіцы вырашана праклясці трамвайную лінію даўжынёю ў 29 км. Кошт праекту — 160 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў.

***

**Андрэас Папандрэу**, 77-гадовы былы прэм'ер Грэцыі скончыў 4-месячны інтэнсіўны курс тэрапіі ў кардыялагічнай клініцы. Папандрэу застаецца пакуль што лідэрам кіруючай сацыялістычнай партыі ПАСОК, але на пасадзе прэм'ера яго замяніў у студзені бягучага году Костас Сіміціс.



КАДРЫ



ЗДАРЭННІ

## Напад на журналіста

**На карэспандэнта газеты *"Гродненская ярмарка"* напалі двое невядомых і нанеслі некалькі чэрапнамазгавых траўмаў. Журналіст трапіў у шпіталь.**

Прычынай нападу, як мяркуюць калегі, стаў артыкул у газеце, дзе карэспандэнт расказвае пра фірмы, якія гандлююць недабраякаснай прадукцыяй.

**В. МАКАРОЎСКІ**

## Адрамантавалі...

**26 сакавіка ў небе каля Мінска ледзьве не здарылася аварыя.**

У расійскага самалёта ТУ-134, які вылецеў з аэрапорта "Мінск-1", сапсаваўся левы рухавік і экіпаж вымушаны быў вярнуцца назад. Цікава, што гэты самалёт накіроўваўся ў расійскую вайсковую частку, якая дыслакуецца ў Орску, пасля рамонту на Мінскім авіярамонтным заводзе.

## Вярні грошы!

**Супрацоўнікі праваахоўных органаў Беларусі затрымалі жыхара Санкт-Пецярбурга сп.Бякезіна.**

У лістападзе 1994 г. і ў красавіку 1995 г. ён атрымаў у акцыянерным камерцыйным банку "Белбізнесбанк" крэдыт на агульную суму 500 млн. рублёў і знік. Цікава, што кіраўніцтва АКБ "Белбізнесбанк" звярнулася з заявай ў міліцыю толькі 26 сакавіка бягучага года.

## Ільіча прыбралі

**У Маларыце Брэсцкай вобласці асірацеў пастамент, на якім 30 гадоў прастаяў Ленін.**

Улады былі вымушаныя прыбраць бюст Ільіча, які за апошні час моцна пацярпеў ад рук былых піянераў. Аднак прыхільнікі ленінскай ідэі могуць быць спакойнымі, бо ў цэнтры горада ёсць яшчэ адзін вялікі помнік Леніну з кепкай у руцэ.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## Фальшывыя долары з мытні

**У Брэсцкім аддзяленні акцыянернага ашчаднага банка "Беларусбанк" была знойдзена 21 фальшывая купюра вартасцю 100 долараў ЗША кожная.**

Цікава, што фальшывыя долары паступілі ў банк з мытнага пункту "Заходні Буг".

**СІМ**

## Усім не дапаможаш

**32-гадовая жыхарка Мазыра, супрацоўніца аднаго з дабрачынных чарнобыльскіх фондаў атрымала 30 імянных пасылак з гуманітарнай дапамогай.**

Аднак адрасатам іх не перадала, а вырашыла прадаць на базары. Падчас гандлю яе і затрымала міліцыя.

**Андрэй СЯМЕНЧЫК**

## Сатаністам вынесены прысуд

**У Брэсце завяршыліся два судовыя працэсы па справах, якія ў свой час нарабілі шмат шуму ў горадзе. На 10 гадоў пазбаўлення волі асуджаны двое сатаністаў (15-ці і 16-гадовыя), якія па-зверску забілі свайго сябра-аднагодку.**

Па другой справе праходзілі трое 17-18-гадовых, якія на могілках ў вёсцы Міцкі разбілі некалькі помнікаў, зламалі крыжы і раскапалі адну з магіл. Ім давядзецца правесці за кратамі ад 3-х да 4,5 год.

## Як Строеў дапамог белавежцам

**У рэдакцыю СВАБОДЫ звярнуліся жыхары пасёлка Белавежскі Камянецкага раёна, якія пажадалі праз газету выказаць удзячнасць старшыні Савета Федэрацыі РФ Ягору Строеву і ўсёй расійскай дэлегацыі, якая падчас візіту ў Беларусь наведала саўгас "Белавежскі".**

Напярэдадні прыезду высокіх гасцей мясцовыя ўлады правялі аперацыю па ачышчэнні пасёлка ад бадзячых сабак. Іх развялося тут столькі, што былі нават выпадкі, калі сабакі кусалі дзяцей. Улады арганізавалі адстрэл. З-за адсутнасці сродкаў вырашана было не запрашаць спецбрыгаду з Брэста, а даручыць гэтую місію ўчастковаму інспектару Анатолю Тарасюку. Міліцыянт справіўся з задачай паспяхова: яму ўдалося застрэліць 40 сабак. Але падзяку белавежцаў чамусьці заслужылі не ўчастковы, а расійскія госці.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 93.000
Нумар падпісаны ў друк 04.04.96 (15.00) Надрукавана ў ЗАТ Lietuvos Rytas (Вільня, праспект Гедыміна,12А)